*Прэзентацыя кнігі*

## Анатоль ВЯРЦІНСКІ:

# “Я веру ў добры, мудры час...” —

**гэта радок з кнігі “Хлопчык глядзіць...” вядомага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай літаратурнай прэміі Анатоля Вярцінскага. Паэтычны зборнік, які толькі што выйшаў у свет ў арыгінальным мастацкім афармленні, складаецца як з вершаў, вядомых па ранейшых кнігах паэта (“Тры цішыні”, “Чалавечы знак”, “З’яўленне”, “Ветрана” і інш.), так і з твораў, якія не ўваходзілі па розных прычынах у кнігі і невядомыя да гэтага шырокаму колу аматараў паэзіі.**

**Прапануем увазе чытачоў “Народнай газеты” вершы з кнігі Анатоля Вярцінскага “Хлопчык глядзіць...”, напісаныя ў розныя гады.**

### Перад святам паэзіі ў Вязынцы

*У нейкі жыццёвы міг,*
*на нейкай вярсце жыццёвай*
*прыслухаўся я, прыціх,*
*і ўлавіў мой слых*
*ціхі шэпт раніцовы.*
*Шапталіся вецер з дажджом,*
*шапталіся хмара з зямлёю,*
*шапталіся дождж з лісцём...*
*І нехта шаптаўся са мною.*
*І ўжо не слыхам — душой*
*адчуў я, што пошум той дзіўны —*
*не проста вецер з імжой,*
*а голас самой Радзімы.*
*Прыйшла і шаптала: “Мой сын!*
*Была я, я ёсць і буду!*
*Буду да вечных часін*
*явай тваёй, тваім цудам.*
*Нішто не падзеліць нас.*
*У нас шлях і лёс адзіны...”*
*У гэты ранішні час*
*усё было — ад Радзімы.*

*І след дажджу на акне,*
*і першая чырвань рабіны —*
*усё было — ад Яе,*
*усё было — ад Радзімы.*
*І вецер, што ціха пяе,*
*і жыта разліў неабдымны —*
*усё было — ад Яе,*
*усё было — ад Радзімы.*
*Наяве было, як у сне,*
*усё ў гэта ранне летняе...*
*Усё было — запаветнае,*
*усё было — ад Яе.*
*Я ёй падбіраў імя,*
*шаптаў я ў душэўным уздыме:*
*“Госпадзі, Гаспадыня,*
*Святыня, Маці мая...”*
*Калі выбіраўся я ў шлях,*
*было святочна і ясна.*
*Радзімы ўвесь абсяг*
*бачыўся мне выразна...*

* * *

*Даруйце, даруйце!..*
*Я так вінаваты.*
*Маўчыце вы лепей, мае адвакаты!*
*Не трэба тут доказаў вашых*
*разумных.*
*Сумленне — заўсёды*
*на лаўцы падсудных.*
*Само сябе садзіць,*
*само сябе судзіць.*
*Тым самым ратуе*
*яно сваю сутнасць.*
*Сумленне, што алібі пэўна*
*сцвярджае,*
*тым самым на гібель сябе*
*асуджае.*
*Усе мы за ўсіх і за ўсё ў адказе,*
*і ўсе вінаваты*
*ва ўсякім разе.*
*Раскайся, злачынца!*
*Забойца, раскайся!*

*Я каюся з вамі —*
*за вас я ў адказе.*
*І вы ўсе — суддзя,*
*пракурор,*
*адвакаты, —*
*за ўсё, што здарылася,*
*вінаваты.*
*І ты, херувімчык ружаваты,*
*за ўсё і ва ўсім вінаваты.*
*І ты, задаволены абываталь,*
*за ўсё і ва ўсім вінаваты.*
*А болей за ўсіх*
*я сам вінаваты.*
*За ўсе нашы ганьбы,*
*пакуты*
*і страты.*
*За ўсё вінаваты!*
*Даруйце, даруйце!*

* * *

*Сёння было мне горка.*
*Сёння ўбачыў я,*
*як згарала зорка.*
*Я падумаў: “Чыя?”*
*Ворага ці пабраціма?*
*Чыя б ні была, а была.*
*Чыя б ні была, а свяціла,*
*была крыніцай святла.*

*Зззяла на зорным небе*
*яна шмат лет і зім.*
*І ўсім было з ёй лепей,*
*святлей было ўсім.*
*І сёння было мне горка,*
*калі ўбачыў я,*
*што згарэла зорка.*
*І я не думаў: “Чыя?”*

Вершы вершамі, а жыццё жыццём, у тым ліку грамадскае... Анатоль Вярцінскі выступае на чарговай сесіі ААН па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА) у кастрычніку 1991 г.

**(З фотаархіва “Народнай газеты.)**

### З’яўленне

*З’яўленне зор і сонца ў вышыні.*
*З’яўленне сокаў з глыбіні карэння.*
*З’яўленне траў у веснавыя дні...*
*І вось маё, і вось тваё з’яўленне.*
*Як быццам бы дамовіліся ўсе —*
*глыбіні цёмныя і залатыя высі, —*
*як быццам бы сказалі ўсе: “З’явіся!” —*
*І ты з’явілася ва ўсёй красе.*
*Як быццам нечакана ўсё было,*
*як быццам выпадкова.*
*А на справе*
*увасабленне гэтае наяве*
*чакалася, як ранняе святло.*
*А каб ты нам з’явілася як след,*
*падмогаю было благаславенне:*
*благаслаўляў тваё з’яўленне свет,*
*сусвет благаслаўляў тваё з’яўленне.*

### Спачуванне

*Спачуваю чалавеку,*
*калі ў яго праразаюцца зубы.*
*У мяне самога праразаліся зубы,*
*і хоць я гэта не помню,*
*але ведаю: балюча было тады.*
*Спачуваю чалавеку,*
*калі ён б’ецца над пытаннямі,*
*калі да яго прыходзяць сумненні,*
*калі яго спасцігаюць расчараванні.*
*Я зведаў на ўласным вопыце*
*і тое, і другое, і трэцяе.*
*Спачуваю чалавеку,*
*калі яму крыўдна,*
*калі гняце яго несправядлівасць.*
*Несправядлівасць! Я знаю, што гэта такое.*
*Самая большая рана на маім сэрцы —*
*гэта тая, якую пакінула несправядлівасць.*

*Спачуваю чалавеку,*
*калі ў яго памірае маці,*
*калі ў яго гора.*
*У мяне самога памірала маці,*
*я сам глядзеў у чорную бездань гора.*
*Спачуваю чалавеку,*
*калі ён баіцца смерці,*
*калі ён паміраць не хоча.*
*Я ж сам смяротны і ведаю:*
*не так гэта лёгка памерці,*
*калі над табой такое сіняе-сіняе неба,*
*калі вакол такая зялёная-зялёная трава.*
*Спачуваю чалавеку,*
*і гэта, відаць, натуральна.*
*Бо хто ж яму паспачувае,*
*калі не я — такі ж, як ён, чалавек!*

### Навагодні тост

*Я прапаную тост за Час!*
*Давайце ўзнімем чашы*
*за Час, працуе што на нас,*
*на спадзяванні нашы.*
*Я прапаную тост за Час! —*
*за Час, працуе што на нас*
*настойліва, сумленна,*
*нястомна і нязменна!*
*Парою здацца нам магло,*
*што Час — ён безудзельны:*
*не за дабро і не за зло,*
*што Час — ён ненадзейны.*
*Мы памыляліся тады.*
*Бываюць дні без шчасця,*
*бясчэсця сумныя гады, —*
*то паласа бясчасся.*
*А Час прыходзіць - як зара,*
*як свежы подых ветра,*
*і адступае хваля зла,*

*І робіцца зноў светла.*
*Прыходзіць Час,*
*прыходзяць дні.*
*Час ставіць кропкі ўсе над “і”.*
*Усё на месца ставіць ён.*
*І называе рэчы —*
*не любіць Час ілжэімён —*
*іх назваю адвечнай,*
*Хлуснёю назаве хлусню,*
*а мітуснёю — мітусню,*
*нядоўгае — нядоўгім,*
*нядобрае — нядобрым,*
*нячыстае — нячыстым,*
*злачыннае — злачынствам.*
*Тырана так і назаве*
*тыранам і — вянок сарве.*
*Нам памагае ўбачыць Час:*
*тут — толькі попел,*
*там — алмаз,*

*тут — зерне,*
*там — палова,*
*тут — пустазвонства гучных*
*фраз,*
*там — ісціннае слова.*
*Я веру ў добры, мудры Час,*
*як веру ў добры, мудры сказ.*
*Я ў трудны дзень кажу сабе:*
*“Нічога, скора Час праб’е,*
*нічога, прыйдзе скора Час*
*і ён тады рассудзіць нас!”*
*Я прапаную тост за Час —*
*саратніка, саахтара!*
*За Час, што працаваў на нас,*
*за Час, працуе што на нас,*
*што будзе працаваць на нас,*
*служыць нам верна заўтра!*

* * *

***Ваўкоў баяцца —***
***у лес не хадзіць***

*Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.*
*У лес не хадзіць — не мець лясіны.*
*Лясіны не мець — не мець хаціны.*
*Хаціны не мець — дзяцей не радзіць.*
*Словам, баяцца ваўкоў —*
*не мець дачок і сынкоў.*
*Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць...*
*Не бачыць ні грыба, ні арэха,*
*не чуць ні шуму ляснога, ні рэха,*
*па сцежцы цяністай не блудзіць,*
*цудаў не адкрыць,*
*казак не стварыць,*
*вершаў не пісаць,*
*праўды не казаць*
*і нават саміх ваўкоў*
*не бачыць павек вякоў...*

### Не дражніце гусей

*Не дражніце гусей,*
*не дражніце гусей.*
*Гусі будуць крычаць яшчэ*
*галасней.*
*Гусі любяць, каб іх шанавалі:*
*яны, гусі, Рым ратавалі.*

*Каб не гусі, загінуў бы Рым,*
*каб не гусі, дык пала*
*б імперыя.*
*Не дражніце гусей,*
*а стварайце ім гімны:*
*“Гусі белыя, гусі верныя...”*

*Стаўце чучалы іх у музей.*
*Не дражніце гусей і вы самі*
*і вучыце дзяцей*
*шанаваць гусей,*
*пакланяцца перад гусямі...*
*Не дражніце гусей.*

* * *

*Я думаў:*
*яны таму такія,*
*што дрэнна чуюць.*
*І я рабіў усё магчымае,*
*каб адкрыць ім вушы.*
*“Вы чуеце? Вы толькі*
*паслухайце! —*
*гаварыў горача я ім. —*
*Вы толькі паслухайце!*
*Вы толькі прыслухайцеся!..”*
*І тут я пераконваўся,*
*што быў дзіваком.*
*Яны, аказваецца,*
*усё выдатна чулі,*
*усё чулі лепш за мяне.*
*Я думаў:*

*яны таму такія,*
*што дрэнна бачаць.*
*І я хацеў адкрыць ім вочы.*
*“Вы бачыце? Вы толькі*
*паглядзіце! —*
*звяртаўся горача я да іх. —*
*Ну гляньце, ну паглядзіце ж!”*
*І, зноў-такі, у адзін цудоўны*
*дзень*
*я пераконваўся,*
*што яны ўсё добра бачаць,*
*усё бачаць лепш за нас з вамі.*
*Я думаў, што яны наіўныя*
*і з гэтай прычыны нешта*
*не разумеюць.*
*І я стараўся іх уразуміць,*

*я прыводзіў факты і доказы.*
*Ды ў нейкі момант*
*здагадваўся,*
*што дарэмна стараюся:*
*яны ўсё разумеюць*
*лепш за мяне,*
*лепш за нас з вамі.*
*І мне рабілася сорамна —*
*за сваю наіўнасць,*
*і мне рабілася балюча —*
*за дарэмна патрачаныя*
*намаганні,*
*і мне рабілася самотна —*
*між намі была сцяна...*

* * *

*Твая воля — як воля лёсу.*
*Ты сустрэла мяне вясной,*
*павяла мяне за сабой,*
*павяла,*
*узвяла да нябёсаў.*
*Была лёгкасць такая ў кроках,*
*мае рухі такімі былі,*
*што не знаў я: іду па аблоках*
*ці імкліва лячу па зямлі.*
*Мне шчаслівая зорка міргала,*
*хітравата падміргвала мне...*
*А затым ты мяне зваргала,*
*павяла на зямлю па вясне.*
*Пазбаўляла крылаў шырокіх:*
*“Хопіць, мілы, лунаць у аблоках,*
*пахадзі па зямных шляхах,*
*пахадзі на ўласных нагах”.*
*І пайшоў я з надзеяй і страхам*
*тым зямным, тым цярністым*
*шляхам,*
*мне нялёгка ісці было,*
*я ў адчаі хмурыў чало.*
*Сустракаліся лужыны, смецце,*
*былі ўхабіны і карчы.*
*Мне хацелася ўцячы,*
*мне хацелася часам смерці.*
*Ды хацеў я, відаць, замнога.*
*Ты казала мне строга: “Жыві!”*
*Была воля тваёй любві —*
*нібы воля лёсу зямнога.*
*І я не мог пярэчыць...*

### Скарга добрых

*Мы горнемся, нібы шчаняты,*
*да іх — з даверам і тугой.*
*А тыя, чымсь сваім занятыя,*
*нас груба локцем, нас нагой.*
*Мы заскавычам па-сабачы,*
*і кінемся ад іх мы прэч,*

*каб нашы вочы і не бачылі,*
*каб і не ведаць гэткіх стрэч.*
*Шукаем дзесьці лекі-травы*
*і лечым травамі тайком*
*мы свае болі, свае траўмы,*
*залізваем іх языком.*

*Залізам трохі іх, залечым,*
*той горкі праглынём клубок,*
*і з нечым добрым, шчырым*
*нечым*
*мы зноў глядзім у іхні бок...*

* * *

*Домік маленькі, бачу я, знеслі.*
*А ў доміку гэтым спявалі песні.*
*А ў доміку гэтым дзяцей нараджалі.*
*А ў доміку гэтым гасцей страчалі.*
*А ў доміку гэтым, у доміку гэтым*
*утульна было зімою і летам.*
*Шкада мне да болю, шкада да слёз*
*доміка, што пайшоў на знос.*
*Не тое лепшае, што навейшае,*
*а тое лепшае, што раднейшае.*
*Не тое лепшае, што вышэйшае,*
*а тое лепшае, што бліжэйшае,*
*не тое лепшае, што прыгажэйшае,*
*а тое лепшае, што даражэйшае...*
*Той домік блізкі некаму быў.*
*Той домік нізкі нехта любіў.*
*З тым домікам звязаны нечы лёс...*
*Той домік пайшоў сягоння на знос.*

### Баіцца быць беларус беларусам...

*Жыў пад прыгнётам ды*
*пад прымусам,*
*зваўся літвінам, русінам,*
*русам,*
*зваўся тутэйшым,*
*мяшканцам, мяшанцам...*
*Незнае, рабіць што з апошнім*
*шанцам,*
*які ён сёння атрымоўвае,*
*як быць з сваім імем,*
*з сваёю моваю,*
*быць ці не быць беларусам*
*нарэшце...*
*Пытанне няпростае, канешне.*
*(Дазволю сабе тут крышку*
*іроніі.*
*Характар наш тут,*
*як на далоні.)*

*Не знае?*
*Не хоча?*
*Не смее?*
*Баіцца?*
*Вялікая гэта таямніца.*
*Зведаў ён ліха апраметнага.*
*Ён не баяўся таго і гэтага.*
*Хапала адвагі, каб з ворагам*
*біцца,*
*ад голаду-холаду каб*
*бараніцца...*
*Ды вось быць самім сабою*
*баіцца.*
*Прайшоў праз Хатынь,*
*праз Курапаты,*
*зносіць цярпліва Чарнобыль*
*пракляты,*
*упарта крыніца яго бруіцца...*

*Ды быць беларусам ён баіцца.*
*Вось дык ноумен, вось дык*
*феномен —*
*гэты ўнук бабін, сын гэты*
*ўдовін.*
*Казалі “не будзь!” —*
*ён схіляўся ніцма.*
*Гавораць “будзь!” —*
*усё роўна баіцца.*
*Вось што робіцца з беларусам.*
*З сінявокім, з белавусам,*
*не з недарэкам, не з няўмекам,*
*з добрым увогуле чалавекам.*
*Баіцца быць беларус*
*беларусам...*
*Ці, можа, ужо не баіцца?*

# ЗАМЕЖЖА

* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

### Приглашают Ельцина в Японию. На “саммит”

**В апреле правительство Японии направит президенту России Борису Ельцину приглашение посетить в начале июля этого года Токио для встречи с лидерами семи ведущих индустриальных стран Запада.**

Предполагается, что приглашение на “саммит” будет направлено Борису Ельцину вскоре после встречи в Вашингтоне президента США Билла Клинтона и премьер-министра Японии Киити Миядзавы, которая состоится 16 апреля — менее чем через две недели после предстоящей в Канаде встречи президентов России и США.

### Валерий Зорькин в США

**Председатель Конституционного суда Российской Федерации Валерий Зорькин прибыл в американскую столицу по приглашению председателя верховного суда США Уильяма Ренквиста.**

Он примет участие в конференции руководителей федеральной судебной системы США. Ожидаются встречи В.Зорькина в Белом доме с президентом Биллом Клинтоном и вице-президентом Альбертом Гором.

### С надеждой на разум

**Россия всегда славилась эффективной политикой, и я уверен, что она и далее будет действовать в направлении, которое уже избрала, заявил президент Республики Польша Л.Валенса.**

Отвечая на вопросы первой программы варшавского радио, глава государства выразил надежду на то, что в России “тоже победит разум”.

### С призывом к миру

**Немедленное прекращение огня в Нагорном Карабахе должно стать главным условием установления прочного мира в регионе.**

Такой призыв к участникам конфликта содержится в заявлении стран — членов Европейского сообщества, распространенном в бельгийской столице.

### НАТО как гарант стабильности в Европе

**“Блок НАТО преодолел период преобразований и сегодня представляет собой главный якорь европейской стабильности”, — заявил генеральный секретарь этой организации М.Вернер в ходе научного семинара, состоявшегося в университете сицилийского города Катания.**

По его мнению, в настоящее время НАТО выполняет и новые задачи: гарантирует стабильность стран Центральной и Восточной Европы, строит новую евроатлантическую безопасность для всех народов.

### Морийон дал интервью ТФ-1

**Я добился согласия боснийских сербов на прекращение огня при условии, что руководство Боснии и Герцеговины сделает заявление, которое прекратит начатое контрнаступление.**

Об этом сообщил командующий силами ООН в Боснии и Герцеговине французский генерал Ф.Морийон в интервью телекомпании ТФ-1.

### Нашли точки соприкосновения

**Начальник генерального штаба вооруженных сил Союзной Республики Югославия генерал Ж.Панич, находящийся с визитом в Ираке, подверг критике политику США.**

В ходе встречи с иракским министром обороны Али Хасаном Аль-Маджидом он осудил “деструктивную роль американского империализма, который стремится уничтожить Югославию и разрушить Движение неприсоединения (ДН)”.

### В дурмане?

**Американские юристы отмечают необычно резкий рост числа осужденных за преступления, связанные с наркотиками и выражают беспокойство, не является ли это следствием своеобразного “перегиба” со стороны правосудия.**

Согласно докладу, представленному на проходившей в Бостоне конференции Американской ассоциации юристов, с 1985 по 1991 год число арестованных за подобные преступления увеличилось на 24 процента, хотя проведенные исследования показали, что за тот же период число американцев, употребляющих наркотики, снизилось с 12 до 6 процентов.

Как подчеркнул один из руководителей ассоциации Нил Соннетт, “правосудие в США все больше внимания и усилий уделяет уголовному преследованию наркоманов и наркодельцов и в гораздо меньшей степени стало карать совершивших другие насильственные преступления”. С 1986 по 1991 год число взрослых американцев, посаженных в тюрьмы за преступления, связанные с наркотиками, возросло на 327 процентов, в то время как общее число взрослых заключенных увеличилось на 50 процентов, а количество зарегистрированных насильственных преступлений — на 41 процент.

В 1991 году за решетку были посажены 165 тыс. взрослых американцев, совершивших преступления, связанные с наркотиками, в то время как за все остальные насильственные преступления — 346 тыс. По словам Соннетта, дело доходит уже до того, что зачастую из тюрем преждевременно выпускаются “обычные” уголовники, чтобы освободить место для осужденных наркоманов и наркодельцов.

**Александр ПАХОМОВ.**

# “Спасите носорога!”

**За свое спасение от истребления черный носорог должен заплатить сам — такова концепция властей Зимбабве, отчаявшихся выиграть войну с браконьерами с помощью запретов.**

Африканское государство намерено узаконить торговлю носорожьим рогом, а вырученные средства использовать на восстановление популяции его обладателей.

Восьмой год власти Зимбабве осуществляют так называемую “операцию цитадель”, направленную против вооруженных автоматами браконьеров, которые действуют с территории соседней Замбии. Егеря уже застрелили более 60 незваных гостей. Но опасность не останавливает охотников за носорожьим рогом, хотя им и достаются жалкие крохи от доходов синдикатов, которые реализуют их добычу в азиатских странах по 2—4 тысячи долларов за килограмм. В восточной медицине порошок из рога африканского исполина ценится как стимулирующее средство.

За последние два десятилетия численность черных носорогов в мире снизилась с 65 тысяч до 3 тысяч. В дальнейшем этим животным грозит самовырождение ввиду скудости генетического фонда. Так, в ЮАР насчитывается 750 черных носорогов. Но они потомки ограниченного круга особей, и исследователи выявили у них признаки деформации черепа, которую связывают с узкородственным размножением. Считается, что Зимбабве располагает самым крупным поголовьем черных носорогов, живущих на воле. Однако оно быстро тает. Четыре месяца назад в стране решили отловить всех представителей этого вида млекопитающих, чтобы ветеринары спилили им рога и тем самым уберегли от браконьеров. Исходили из того, что животных около 2 тысяч. Поймали, однако, только 127. По оценке специалистов, вероятно, операции избежали примерно столько же. Еще 160 особей содержатся на частных ранчо. В сумме получается не более 450.

В Намибии численность черных носорогов составляет около 400 голов, из которых большинство обитает в национальном парке Этоша. Остальные — на северо-западе страны, в районе, который до недавнего времени именовался Дамаралендом. Именно эта часть популяции — объект пристального внимания защитников природы из числа представителей общественности. Деловые круги и отдельные граждане делают денежные и материальные пожертвования в фонд с призывным названием “Спасите носорога!”. Как сообщила представитель фонда по вопросам информации Шарон Монтгомери, в Намибии в отличие от Зимбабве черные носороги проживают далеко от границы. А среди местных граждан в последние годы утвердилось чувство гордости за то, что страна обладает этими редкими экземплярами фауны. Крестьяне Дамараленда стали сами следить за тем, чтобы никто из посторонних не занимался браконьерством.

Поэтому на сегодняшний день в Намибии нет необходимости в проведении дорогостоящих операций по спиливанию рогов. В Зимбабве же министерство национальных парков и по вопросам окружающей среды планирует лишить ценных атрибутов тех зверей, у кого они еще остались, переместить этих особей в безопасные места, где под “усиленной охраной” они производили бы потомство. Но проблема состоит в том, что у министерства не хватает денег даже на выплату зарплаты своим сотрудникам. Выход видится в приравнивании исчезающих носорогов к домашнему скоту. Их можно будет продать и купить, получить доход от рогов, шкур и побочных продуктов. И тогда, по мнению ученых, у них появятся те же шансы на выживание, что и у коров или коз.

В качестве первого шага власти собираются создать фонд на деньги, вырученные от продажи двух с половиной тонн носорожьего рога, конфискованного у браконьеров, собранного с погибших животных, а также в ходе проведения кампании “массового обезроживания” животных. Этого достаточно, чтобы специалисты, занимающиеся восстановлением популяции черных носорогов в Зимбабве, не сталкивались с серьезными финансовыми затруднениями в течение по крайней мере двух ближайших лет.

**Александр ПРОСВЕТОВ.**

*Пасля падзеі*




### Як “мядзведжая” сям’я выйшла з зімовай спячкі

Трэба сказаць, што нават самыя заўзятыя аптымісты наўрад ці маглі спадзявацца на такое прыстойнае свята ў мінскім Палацы спорту. Фінансавыя праблемы, нестабільная палітычная абстаноўка — ды ці мала што яшчэ магло паўстаць на шляху спаборніцтваў.

І тым не менш XXIY міжнародны турнір па вольнай барацьбе на прызы трохкратнага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя прайшоў, як кажуць, на вышэйшым узроўні. Спартсмены ЗША, Германіі, Польшчы, Турцыі, Расіі, Беларусі, іншых дзяржаў памераліся сілай, і роўна палавіну залатых медалёў заваявалі нашы спартсмены. Цудоўны вынік і цудоўны турнір!

**Алесь СІВЫ.**
**Фота Сяргея ГРЫЦА.**

*Пазнаяце?*

**У Дзяржаўным мастацкім музеі ў Мінску адкрылася экспазіцыя маскоўскага філіяла Санкт-Пецярбургскага музея васковых фігур. Любы жадаючы можа трапіць сюды за дзвесце пяцьдзесят рублёў.**

... Задумаўся Андрэй Сахараў, Барыс Ельцын і Міхаіл Гарбачоў высвятляюць адносіны, Уладзімір Ленін, за яго спінай замёр Леў Троцкі, "дарагі Леанід Ільіч" і "наш Мікіта Сяргеевіч", Кацярына II і Фёдар Дастаеўскі... Гісторыя сціснула свае стагоддзі — на паверхні засталіся толькі глыбы чалавечага розуму.

А наведвальнікі шукаюць падабенства выстаўленых фігур са сваім уяўленнем аб тым ці іншым дзеячу. І тут ужо кожны бачыць сваё.

"Гэта яны спецыяльна так зрабілі. Яны яго ненавідзяць", — сівым людзям з ордэнскімі планкамі не падабаецца выкананне фігуры Леніна.

Кагосьці захапляе моц Пятра I, хтосьці спрабуе вызначыць рысы тыранаў у паблажлівых усмешках Сталіна і Берыі, хтосьці ўпэўнены, што "Ельцын крыху здаравейшы", другога зацікавіў пінжак Карла Маркса. І абсалютна ўсе звяртаюць увагу на рост фігур, бо параўнаць сябе з правадырамі хоча кожны.

А найбольш трагічным мне падалося суседства членаў сям'і Мікалая II з іх катам Юроўскім. Здаецца, царэўны праз час бачаць, як гэты чалавек дапівае шклянку гарбаты і выцягвае з драўлянай кабуры свой маўзер...

Сяргей ГРЫЦ.
Фота аўтара.









*Калі гэта вас цікавіць...*

## Для каго спявае Валянціна Пархоменка?

*Шаноўная "Народная газета"!*

*Я вельмі люблю слухаць народныя песні ў выкананні Валянціны Пархоменка. Але ў апошні час іх не перадаюць ні па радыё, ні па тэлебачанні . Кажуць, што спявачка пакінула Беларусь і цяпер жыве ў Амерыцы. Ці праўда гэта?*

**Максім ІГНАТОВІЧ,**
**інжынер.**

*г.Мінск.*

Праўда, Максім, праўда. Нядаўна ў Злучаных Штатах Амерыкі пабываў галоўны рэдактар "Народнай газеты", і ў адной з прыватных гутарак з афіцыйнымі асобамі ён атрымаў наступную інфармацыю.

Крыху болей двух гадоў назад Валянціна Пархоменка гастраліравала па ЗША ў складзе ансамбля "Жывіца". Разам з ёю былі яе муж, спявак-музыкант Алесь Казак, і дачка.

Калі трэба было вяртацца на радзіму, Валянціна Пархоменка заявіла: "У нас вельмі хворае дзіця, мы дамовіліся наконт яго абследавання, а таму трэба застацца яшчэ на некалькі дзён..."

"Жывіца" вярнулася ў Мінск, але без самай папулярнай спявачкі Валянціны Пархоменка. Не вярнулася яна ні праз тыдзень, ні праз месяц. Разам з ёю ў Амерыцы засталіся муж і дачка. Дарэчы, як высветлілася, у ЗША пражывае дзядзька мужа Пархоменка. Вось у яго яны і спыніліся. Але праз некалькі месяцаў ім прыйшлося змяніць месца пражывання — кажуць, успыхнуў канфлікт і ўжо старэнькі дзядзька паказаў гасцям на дзверы.

Каб нейкім чынам звесці канцы з канцамі, Валянціне Пархоменка прыйшлося даглядаць аднаго старэнькага адзінокага чалавека ў Нью-Йорку, за што яна атрымлівала нейкую плату і магчымасць пражываць са сваёй сям'ёй у яго доме. Заціх яе цудоўны голас, пачала забываць яна гарачыя апладысменты — толькі час ад часу даводзілася выступаць перад эміграцыяй ды іншай выпадковай аўдыторыяй.

Напярэдадні Новага года Валянціны Пархоменка ў Нью-Йорку ўжо не было. Цяжка сказаць, што атрымалася, але той чалавек, якога яна даглядала, апынуўся ў доме састарэлых, а яна, па некаторых звестках, выехала ў Кліўленд, невялікі горад, дзе пражывае значная частка беларускай эміграцыі. Для каго цяпер спявае Валянціна Пархоменка і каго даглядае — невядома.

**Іван ПЕТРУШКЕВІЧ.**

*Примите к сведению!*

## Настоящая "десятитысячная" выглядит так...

**Национальный банк Республики Беларусь доводит до сведения предприятий, учреждений, организаций и населения описание билета (банкноты) Банка России образца 1992 года достоинством 10000 рублей.**

Билет Банка России достоинством 10000 рублей изготавливается размером 144х70 мм на белой бумаге и имеет на широком белом поле локальный водяной знак в виде изображения Московского Кремля и флага России на куполе здания правительства России. В структуру бумаги хаотично внедрены в небольшом количестве красные и фиолетовые волокна.

Преобладающие цвета лицевой и оборотной сторон билета — коричневый и голубовато-розовый.

На лицевой стороне банкноты расположены:

в центральной части вверху на узорчатом фоне текст "Банк России" темно-коричневого цвета, под ним в серой рамке — изображение Московского Кремля и российского флага на куполе здания правительства России. Вверху рамки — изображение солнца и лучей, ниже рамки — лента с текстом "десять тысяч" черного цвета и слово "рублей" черного цвета. Справа и слева в верхних углах красочного поля — числа "10000" коричневого цвета. В нижних углах — числа "10000" красного и коричневого цветов.

В правой части банкноты — широкое белое поле, на котором вверху текст "Подделка билетов Банка России преследуется по закону", внизу год выпуска банкноты, "1992".

В левой части банкноты узкое белое поле.

На оборотной стороне расположены: в центральной части внизу текст "десять тысяч рублей", выше текста — панорамное изображение Московского Кремля, слева и справа вверху числа "10000".

В левой части банкноты широкое белое поле, на котором изображено число "10000".

В правой части банкноты узкое белое поле. С левой стороны внизу и с правой стороны в середине два семизначных номера, перед каждым номером двухбуквенная серия.

Выпущенный в обращение банковский билет Банка России обязателен к приему всеми государственными, кооперативными, общественными и другими предприятиями, учреждениями, организациями, колхозами и отдельными лицами для оплаты всех товаров, а также учреждениями банков и предприятиями Министерства связи на счета, во вклады.

**В.СЕНЬКО,**
**начальник управления эмиссионно-кассовых операций Национального банка Республики Беларусь.**

*Происшествия*

### Сбрось маму с поезда

**На окраине Бреста в мусорном контейнере обнаружен завернутый в полиэтилен труп новорожденного младенца.**

Роженицей-убийцей оказалась 17-летняя учащаяся близрасположенного профтехучилища, будущая закройщица.

Примерно в эти же дни "скорая помощь" доставила в брестский роддом 23-летнюю Н. с двумя малолетними дочками и... новорожденным сыном. Когда начались схватки, Н. продезинфицировала ножницы, капроновую нить и приняла у себя роды. Лишь к следующему вечеру она через соседей доложила о своей радости медикам.

**Василий САРЫЧЕВ.**

### Все вокруг колхозное, все вокруг мое

**Видимо, буквально поняли вынесенную в заголовок крылатую фразу две доярки колхоза имени XXI съезда КПСС Речицкого района.**

Они вывели с фермы корову и продали неизвестному водителю за 5 тысяч рублей. Ведется следствие.

**Анатолий ИВАНОВ.**

*Надвор'е*

Сёння ўдзень па рэспубліцы пройдуць дажджы, вецер заходні 6—11 метраў у секунду, месцамі парывы 15—19 метраў у секунду. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве, Мінску — 7—9, Гомелі, Гродне — 8—10, Брэсце — 9—11 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак характар надвор'я істотна не зменіцца.

*Астранамічны каляндар — 17.03*

Узыход і заход сонца: Мінск — 6.21, 18.16; Віцебск — 6.11, 18.06; Магілёў — 6.10, 18.05; Гомель — 6.04, 18.05; Гродна — 6.33, 18.33; Брэст — 6.36, 18.32.

Даўжыня дня ў Мінску — 11.55.

Апошняя квадра — 15 сакавіка.

*Праграма тэлеперадач*

**Серада, 17 сакавіка**

**Беларускае тэлебачанне**

**13.40.** "Шчыт і меч". Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.25.** "Аперацыя на сэрцы". Дак. фільм.
**15.55.** Відзьма-нявідзьма.
**17.00.** Навіны.
**17.10.** "Востраў скарбаў". Мультфільм.
**18.00.** Дак. фільм "Запаведнае месца".
**18.30.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** "Пяць зорак".
**19.55.** Міжнародная канферэнцыя "Вопыт рэформ сістэмы самакіравання ў Рэспубліцы Польшча".
**20.20.** ТА "Рэха". Спажывецкія клопаты.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** "Лада ОМС" прадстаўляе: "Мачыха".
**22.25.** "Еўразія": мультфільм.
**22.40.** Топ-агент.
**23.10.** НІКа.

**Канал "Астанкіна"**

**10.50.** Прэс-экспрэс.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** "Выпрабавальнікі". Маст. фільм.
**12.50.** Маст. фільм "Што будзе, тое і будзе". 1-я серыя.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.15.** "Доктар Айбаліт". 5-я і 6-я серыі.
**15.35.** В.Дзевятаў у праграме "Расія ў песні, музыцы, танцы".
**15.55.** Мультфільм "Лятаючы дом".
**16.25.** Праграма "Лепшы час" з цыкла "Крокі насустрач".
**16.50.** Тэхнадром.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** "Ніжагародскі эксперымент. Адзін семярых не чакае". Перадача 2-я.
**17.55.** Выступленне Г.Гарунова і Расійскага нацыянальнага сімфанічнага аркестра.
**18.05.** Маст. фільм "Проста Марыя" (Мексіка).
**18.50.** Юлія Барысава ў інтэр'еры тэатра.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** За Крамлёўскай сцяной.
**21.20.** Футбол. "Алімпік" (Францыя) — ЦСКА (Расія)).
**23.20.** Навіны.
**23.40.** Футбол. Ліга чэмпіёнаў.
**0.30.** Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

**11.05.** "Санта-Барбара".
**11.55.** Пілігрым.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.25.** "Рудольф Нурыеў як ён ёсць".
**14.45.** "Караван". Тэлеальманах.
**15.15.** Сігнал.
**15.30.** Там-там навіны.
**15.45.** Студыя "Рост".
**16.15.** Далёкі Усход.
**17.00.** Хрысціянская праграма.
**17.30.** Свята кожны дзень.
**17.40.** Студыя "Нотабене".
**18.25.** Футбол. "Спартак" (Масква) — "Феенаард" (Ратэрдам). У перапынку — Весткі.
**20.25.** "Казка пра дурнога мужа". Мультфільм для дарослых.
**20.35.** У аркестры толькі дзяўчаты.
**21.05.** "Санта-Барбара".
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Зоркі гавораць.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** Рэферэндум...
**22.45.** На сесіі ВС Расіі.
**23.15.** "Джэмі Хендрыкс".

**Чацвер, 18 сакавіка**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.15.** "Блакітныя гарады". Фільм-канцэрт.
**9.20.** "Галасы". Кінанарыс.
**9.30.** "Лада ОМС" прадстаўляе: "Мачыха".
**10.20.** "Пяць зорак".
**11.05.** Дак.фільм "Мужыкі 2000 года".
**11.25.** "Еўразія": мультфільм.
**13.30.** Навіны.
**13.40.** "Шчыт і меч". Маст.фільм. 3-я серыя.
**15.05.** "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета". Маст. фільм.
**16.30.** Беларуская літаратура. 11-ы клас.
**17.00.** Навіны.
**17.10.** Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі.
**17.35.** Мультфільмы.
**18.00.** Дак. фільм. "Маці чалавечая".
**18.30.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.10.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.15.** Здароўе.
**19.45.** Новабудоўляпа-магілёўску.
**20.25.** Тыдзень беларускага ўрада.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** "Лада ОМС" прадстаўляе: "Мачыха".
**22.25.** Студыя "Формула".
**23.55.** НІКа.
**00.10.** Тэлебіржа.

**Канал "Астанкіна"**

**5.00.** Навіны.
**5.20.** Раніпшяя гімнастыка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** Фірма гарантуе.
**8.00.** Навіны.
**8.20.** Мультфільмы "А хто чараўнік?", "Малпа і чарапаха".
**8.45.** Маст.фільм "Проста Марыя" (Мексіка).
**9.30.** "У свеце жывёл" ( з сурдаперакладам).
**10.10.** ...Да 16 і старэйшым.
**10.50.** Прэс-экспрэс.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** Футбол. Ліга чэмпіёнаў.
**12.55.** Маст.фільм "Што будзе, тое і будзе". 2-я серыя.
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Тэлемікст.
**15.10.** Блакнот.
**15.15.** "Доктар Айбаліт". 7-я серыя.
**15.25.** "Салістка Вялікага Леакадзія Масленікава".
**16.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** "Ніжагародскі эксперымент". Перадача 3-я.
**17.50.** Тэхнадром.
**18.00.** Надвор'е.
**18.05.** Маст.фільм "Проста Марыя" (Мексіка).
**18.50.** Азбука ўласніка.
**19.00.** Рускі свет.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Лато "Мільён".
**21.10.** "Вясна". Маст.фільм.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Радыё "Труба".
**23.55.** Фехтаванне. Кубак свету.
**0.40.** Прэс-экспрэс.

**Канал "Расія"**

**7.00.** Весткі.
**7.25.** Час дзелавых людзей.
**7.55.** Студыя "Нотабене".
**8.35.** Вольны час. "Птушкі побач з намі".
**8.50.** Футбол. "Спартак" (Масква) — Феенаард" (Ратэрдам).
**10.30.** Маскарад-салат.
**11.00.** "Санта-Барбара".
**11.50.** Партрэт з "Фантастычнай сімфоніяй".
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**13.25.** Настальгічныя вячоркі.
**13.55.** Тэлетэатр. А.Нікалаі. "Матылёк, матылёк..."
**15.10.** Чалавек справы.
**15.40.** Там-там навіны.
**15.55.** Мульці-пульці. "Калодзеж".
**16.05.** "Патухлая зорка?"
**16.35.** Эканамічная праграма.
**17.05.** М-трэст.
**17.20.** Апазіцыя.
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Кіпрас Мажэйка. Рэпартажы з "Малой Еўропы".
**18.45.** Свята кожны дзень.
**19.00.** Весткі.
**19.25.** "Санта-Барбара".
**20.15.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**20.45.** Кліпавая алея.
**21.00.** На палітычным Алімпе.
**22.00.** Весткі.
**22.20.** Зоркі гавораць.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** Крымінальныя паведамленні.
**22.40.** На сесіі ВС Расіі.
**23.10.** П.І.Чайкоўскі. Фінал канцэрта для скрыпкі з аркестрам.
**23.35.** "Міхаіл Барышнікаў". Фільм 3-і.

## Шахматы

### 3-й шахматный конкурс

Публикуем очередные задания.

**Задание N 9**

a b c d e f g h

**Белые:** Kpf4, Фd2, Лf2 (3).
**Черные:** Kph1, пп. g2, h3, h4 (4).
**Мат в 3 хода.**
За правильное решение задания N 9 засчитывается 3 очка.

**Задание N 10**

a b c d e f g h

**Белые:** Kpf7, Фb3, Лa8, Kd5 (4).
**Черные:** Kpd4, пп. d7, g5 (3).
**Мат в 3 хода.**
За правильное решение задания N 10 засчитывается 3 очка.

Свои ответы на конкурсные задания присылайте по адресу: 220010, Минск, Дом правительства, редакция "Народной газеты", "На 3-й шахматный конкурс".

**Решение конкурсных заданий**

Задание N 1: в двухходовке Л.Куббеля к цели ведет 1. Kpg6!

Задание N 2: задача С.Давыдюка решается ходом 1. Cb2!

Прислали правильные ответы и включены в конкурс Наконечкин, Петрушко, Приход, Мирзаханов, Афанаскин, Чишко, Пушкарева, Босак, Ломако, Ковалевич, Нестюк, Лайков, Дмитрук, Зубик, Баган, Григорьев, Дрык, Люстибер, Егунов, Станько, Гуняшов, Четырбок, Филюта, Ничипорчик, Медведь, Базылюк, Колтунчик, Дубовик, Василюк, Мигаль, Завадский, Лаптев, Грицук, Мозгов, Василенок, Климовец, Яхновец, Жилко, Трухнов, Орищук, Ярощук, Ткачук, Дермоян, Головчик, Котов, Мережкин, Степанюк, Замотаев, Сивуха, Шикунец, Катаев, Лобанов, Бартош, Кринко, Мамчиц, Пуриков (Брестская обл.), Некрасов, Калитиевский, Хитько, Игонькин, Лузанов, Толкачев, Шитц, Стародубцев, Телятников, Гублер, Галезник, Шашков, Прохоров, Холтынский, Осипов, Жилин, Козел, Давыденко, Бельский, Исаченко, Шевчук, Соколов, Ходонович, Качанов, Жигилий, Кечко, Любутин, Екименко, Юрченко, Косой, Погожев, Башлаков, Палубец, Пасиченко, Солопов, Заруба, Новик, Маншин, Гогин, Крыленко, Яночкин, Томаров, Виницкий, Сусло, Паренкин, Ковалевский, Клименко, Макролин, Агаповский, Аврамец, Боженков, Макаров (Гомельская обл.). Продолжение следует.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Рэкламнае бюро — 29-34-05, 27-33-96; факс — (0172) 27-37-63.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў матэрыялах змешчаны даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара. Лісты чытачоў друкуюцца на мове арыгінала. Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя "Народнай газеты" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы.

Рэдакцыйныя тэлефоны: грамадская прыёмная — 29-60-86; прыёмная галоўнага рэдактара — 29-60-08; намеснікі галоўнага рэдактара — 29-69-04, 29-64-21, 27-22-16; юрыдычнае бюро — 29-69-68; карэктура — 29-62-12; стыльрэдактар — 29-64-04; мастак — 20-62-43; бухгалтэрыя — 29-60-21, 29-67-23; бізнес-бюро — 29-65-50.

Аглядальнікі па пытаннях дзейнасці: парламента рэспублікі, грамадска-палітычных арганізацый і рухаў — 29-66-04; урада рэспублікі — 29-68-12; мясцовых Саветаў — 29-61-56; дзяржаўных органаў — 29-64-78; аграрнай палітыкі — 29-60-42; экалогіі, ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі і НТП — 20-41-82; сацыяльнай пераарыентацыі эканомікі — 20-52-65;сацыяльнай пераарыентацыі сферы абслугоўвання — 29-69-68; сацыяльнага вывучэння грамадскай думкі і аналізу пошты — 29-68-03; культуры і нацыянальнага адраджэння — 29-61-56; маралі і права — 29-69-87, 29-61-76; сацыяльнай абароны асобы — 29-69-87; аператыўных падзей, фізкультуры і спорту — 20-83-97; палітычны каментатар — 29-65-01.

Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Брэсце —42-49-35; у Віцебску — 5-12-12; у Гомелі — 55-81-05; у Гродне — 45-35-61; у Магілёве — 26-35-38; у Маскве — 365-16-44.

**Адрас рэдакцыі: 220010, Мінск, Дом урада.**

Індэкс 63868

Выходзіць штодзённа, акрамя нядзелі і панядзелка. 250 разоў у год.

Падпісана ў друк у 19.10.
Газета аддрукавана ў друкарні выдавецтва"Беларускі Дом друку".
Спосаб друку — афсетны, фармат А-2
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**Галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**